№ 101 (3842)

24 снежня 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб* **КОЛАС**



АКТУАЛИИ

Светлана КАЛИНКИНА

# «Я уйду, если…»

Тревожная новость. Команда ученых из Австралии и США создала лекарство от старости. Лекарство уже протестировали на мышах и пришли в восторг: клетки пожилых грызунов буквально за неделю омолодились и перестали отличаться от клеток полугодовалых животных. На лекарство возлагают большие надежды и вскоре обещают начать его испытания на людях.

Нет, для каждого отдельно взятого человека новость, конечно, разного восприятия. В конце концов, в библейские времени люди жили по нескольку сотен лет, а чем мы хуже? Но если оценивать ее в масштабах страны... Представьте только: сегодняшний правитель остается в Беларуси очень надолго. Купит эти таблетки молодости, и под его байки придется жить не только нам, но и нашим внукам, правнукам... Кошмар! Хотя, конечно, я никому не желаю скорой смерти.

Кстати, Владимир Путин на последней пресс-конференции заверил, что пожизненных президентов в России не будет. И уточнил: «Это опасно для стабильности российского государства».

Белорусский начальник, как давно всем понятно, между понятиями «стабильность государства» и «стабильность собственной власти» ставит знак равенства. Потому у него другой подход: «Когда народ мне скажет «Уходи!», я уйду».

Ну, коль уж сам попросил...

В этом году на акцию «Дзяды» гомельчанин Юрий Рубцов приехал в майке с надписью «Лукашенко, уходи!». Но Юрий Рубцов – это, видимо, неправильный какой-то народ: задержали и посадили.

Через несколько дней житель Столбцовского района Леонид Смовж тоже приехал в Минск на акцию. Тоже в майке. На груди было написано «За Беларусь без Лукашенко!», на спине – «За Беларусь без диктатуры!». Тоже арестовали. И Смовж какой-то не такой народ.

По данным независимых социологов, рейтинг Лукашенко в 2013 году составлял всего 35–40 процентов. Это значит, что 60–65 процентов белорусов больше не хотят видеть его во главе государства. И это при том, что система не позволяет сформироваться новым ярким лидерам – ни в оппозиции, ни во власти, дабы, не дай Бог, не затмили угасающее солнце. То есть, согласно этим исследованиям, 60–65% белорусов Лукашенко уже так достал, что они готовы его сменить «хоть на кого».

Тоже не тот народ?

В то же время «Уходи!» своему правителю мы сказать никак не можем, потому что кляп во рту.

Массовые акции запрещены: даже чтобы хлопать в ладоши на улице, по белорусским законам надо брать разрешение, которое под разными предлогами не дают. Выборы по принятым во всем мире правилам наша власть проводить даже не собирается: из 25 рекомендаций миссии Бюро по демократии и правам человека ОБСЕ при внесении поправок в Избирательный кодекс не была учтена ни одна. СМИ... Ну, вы сами видите, что творится у нас с государственными СМИ. Они охотно расскажут, что в США дети голодают. Но о том, что белорусские инвалиды не могут не голодать, имея такую пенсию, не расскажут никогда.

Между тем проблема смены власти стала главной проблемой нашей страны. Лукашенко стал, образно говоря, булыжником, тянущим Беларусь на дно, не позволяющим двигаться дальше. Уходящий год это засвидетельствовал так ярко, как никакой другой.

Он боится конкуренции, поэтому, заметьте, часто назначает на высокие посты людей не по принципу профессионализма и ума, а по принципу верности. В результате мы, даже имея деньги, вкладываем их в проекты, которые не дают отдачи, приносят не прибыль, а новые убытки. Разразившиеся скандалы с так называемой модернизацией цементной отрасли, деревообработки, льнопереработки, пищевой промышленности это засвидетельствовали.

Он считает, что власть можно удерживать силой. В итоге Беларусь стала мировым лидером по соотношению числа сотрудников милиции к населению. На 100 тысяч населения в Беларуси приходится 1442 сотрудника МВД. Среднемировой показатель составляет 300 полицейских на 100 тысяч человек, ООН рекомендует 222 полицейских. В СССР было 214 милиционеров на 100 тысяч населения...

Причем эти данные не я придумала. Они приведены в пояснительных записках к двум законопроектам, которые сейчас находятся в Верховной Раде Украины. Даже если киевские специалисты переборщили, то не намного.

Он упорно и настойчиво не желает проводить выборы по тем правилам, которые приняты во всем цивилизованном мире. И, в очередной раз поменяв в уходящем году избирательное законодательство, оставил в нем главное – возможность манипуляции итогами голосования. А значит, Лукашенко боится выбора народа. Не позволяет народу сказать это самое «Уходи!».

Так где выход?

Лично меня радует, что все меньше и меньше людей тешат себя мыслью, что «Лукашенко хороший, но ему мешают». Наоборот, все чаще можно услышать: «Да за него теперь только олигархи и чекисты...» Меня это действительно радует! Мир ведь так удивительно устроен, что, когда люди не в состоянии что-то изменить, в дело вмешиваются иные силы. Если хотите – Бог. Вспомните, как в марте 1991 года на референдуме все дружно проголосовали за сохранение СССР. Согласно официальным данным, 77,85% высказались «за». Но какой толк был от этих сомнительных «за», если к декабрю того же года СССР рухнул?..

Вот и у нас, скорее всего, как-то так будет. Если народ действительно захочет смены власти, то она так или иначе, но не удержится. В общем, можно смело радоваться за ученых, придумавших лекарство от старости.

УВАГА!

# 28 снежня — апошні дзень падпіскі!

*У 2014 год — з «Народнай Воляй»!*

*Наша газета спраўдзіць Вашы спадзяванні.*

*Ад Вас, шаноўныя чытачы, нам хаваць няма чаго — мы, як і Вы, гарой стаім за ПРАЎДУ.*

*Нас хвалюе тое, што і Вас.*

*Шчасця, дабрабыту кожнаму з Вас!*



***Вы — з «Народнай Воляй», «Народная Воля» — з Вамі!***

ПРАТЭСТ

# Трое аўтамабілістаў падалі заяўку на аўтапрабег пратэсту

Тры вядомыя апазіцыйныя палітыкі — **Сяргей Калякін, Анатоль Лябедзька** і **Віктар Карнеенка** — падалі ў Мінгарвыканкам заяўку на правядзенне аўтапрабегу па праспекце Незалежнасці ў нядзелю, 5 студзеня, з 12 да 13 гадзін.

*«Гэта акцыя супраць увядзення аўтамабільнай пошліны,* — растлумачыў мэту аўтапрабегу старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька. *— Мы ўсе — аўтамабілісты, і дзеянні ўлад тычацца непасрэдна кожнага з нас. Роўна як і мільёнаў іншых. Калі не супрацьстаяць, не процідзейнічаць, то гэтай пошлінай справа не абмяжуецца. Чалавек у Беларусі — бяспраўная істота, у якой няма ніякіх правоў, адны абавязкі. З меркаваннем людзей даўно перасталі лічыцца. Трэба супраціўляцца».*

На пытанне, што будзе, калі гарадскія ўлады не дазволяць акцыю, Анатоль Лябедзька адказаў: *«Праспект Незалежнасці — гэта не пешаходная зона. І 5 студзеня праезд па ім адкрыты. Значыць, будзем рухацца. А тых, хто паставіў аўто на прыкол да пачатку дачнага сезона, запрашаем прагуляцца ў гэты час уздоўж праспекта».*



ВІЗІТ

# Лукашэнка накіраваўся ў Маскву

*Аляксандр Лукашэнка затрымліваецца ў Расіі. З Сочы ён накіраваўся ў Маскву. У расійскай сталіцы беларускі кіраўнік 24—25 снежня прыме ўдзел у пасяджэннях Вышэйшага еўразійскага эканамічнага савета і Вышэйшага дзяржаўнага савета Саюзнай дзяржавы.*

Плануецца, што на саміце Вышэйшага еўразійскага эканамічнага савета 24 снежня прэзідэнты абмяркуюць пытанні развіцця інтэграцыйнага ўзаемадзеяння і далучэння да яго новых краін. У цэнтры ўвагі будзе ход работы над праектам Дамовы пра Еўразійскі эканамічны саюз. Акрамя таго, у парадак дня пасяджэння ўключаны пытанні, якія датычаць кантролю за выкананнем правіл канкурэнцыі, дзейнасці суб'ектаў натуральных манаполій. Плануецца таксама зацвердзіць бюджэт Еўразійскай эканамічнай камісіі на 2014 год. На пасяджэнні Вышэйшага дзяржаўнага савета Саюзнай дзяржавы 25 снежня разгледзяць асноўныя пытанні беларуска-расійскага супрацоўніцтва.

ПАД ГРАДУСАМ

# На Каляды будзе цёпла, як на Вялікдзень?

*Перабольшванне ўмоўнае — днём у сераду 25 снежня па Беларусі чакаецца да плюс 6 градусаў. Тэмпература пачне паніжацца толькі на наступным тыдні.*

Сёння, у аўторак, істотных ападкаў не прагназуецца. Тэмпература паветра днём плюс 2—7°С. Прагназуецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, без істотных ападкаў, ноччу і раніцай месцамі туман, на асобных участках дарог галалёдзіца. Вецер паўднёвы 5—10 м/с.

У сераду ў краіне таксама істотных ападкаў не чакаецца, месцамі на дарогах галалёдзіца, тэмпература ўначы мінус 2°С — плюс 3°С, днём плюс 1—6°С.



З чацвярга па суботу ў асобных раёнах чакаюцца невялікія ападкі, у асноўным дождж, на дарогах месцамі галалёдзіца. Тэмпература паветра ноччу прагназуецца ў межах ад мінус 2°С да плюс 3°С, днём — плюс 1—6°С.

У нядзелю праз Беларусь будзе праходзіць больш актыўны атмасферны фронт, таму на большай частцы тэрыторыі краіны чакаецца мокры снег і дождж, месцамі туман, галалёд, на дарогах — галалёдзіца. Тэмпература ноччу мінус 3°С — плюс 3°С, днём мінус 2°С — плюс 4°С.

Хутка канец года, а ў Баранавічах расцвілі маргарыткі. Нават пасля снегападу раслінкі не загінулі, а працягнулі сваё жыццё, калі снег сышоў.

Пакуль кветкам нічога не пагражае. Сіноптыкі не абяцаюць рэзкага і нечаканага пахаладання.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

РЭГІЁН

# «Праект стагоддзя» ад Сумара

Будаўніцтва ў наступным годзе горна-ўзбагачальнага камбіната на базе радовішча друзу «Сітніцкае», што ў Брэсцкай вобласці каля Мікашэвічаў, і прыцягненне ў рэгіён інвестыцый у памеры 250—300 мільёнаў долараў выклікае сумнеў не толькі ў мясцовых жыхароў, але і ў экспертаў.

Аднак старшыня Брэсцкага аблвыканкама Канстанцін Сумар паабяцаў, што «праект стагоддзя» будзе рэалізаваны пры падтрымцы Банка развіцця. Акрамя таго, па яго словах, у рэгіёне будзе створана 1200 новых высокатэхналагічных рабочых месцаў. Праўда, наўрад ці Сумар падасць у адстаўку, калі гэтае абяцанне не спраўдзіцца, як і многія іншыя. А можа, ён ужо будзе на пенсіі?

СА СВЯТАМ!



*Тадэвуш КАНДРУСЕВІЧ:*

# «Бог не мае ганарлівасці...»

## *З пастырскага Паслання Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча на Божае Нараджэнне*

Ізноў, як штогод, мы адзначаем радаснае і збаўчае свята Божага Нараджэння, калі дома ладзім ялінкі, купляем падарункі дзецям і спяшаемся да касцёла, каб у роздуме стаць каля ясляў, дзе знаходзіцца фігурка Немаўляткі Езуса. Менавіта гэтае слабое фізічна Дзіця стала мацнейшым за магутных гэтага свету і адыграла непаўторную ролю ў жыцці чалавецтва, бо Яно — гэта доўгачаканы Збаўца.

Тады, дзве тысячы гадоў таму, сярод цёмнай ночы граху апоўначы раздаўся стук. Гэта быў стук Марыі і Юзафа ў дзверы гасцініцы, каб знайсці месца, дзе мог бы нарадзіцца Збаўца свету. На самай справе гэта быў стук Бога ў дзверы чалавечага сэрца.

Хаця ў тыя часы яўрэйскі народ вызначаўся вялікай гасціннасцю і лічыў сваім абавязкам прыняць у дом кожнага падарожніка, тым не менш адказ на просьбу Юзафа быў адмоўны, хаця ноч была халоднаю. Яна была халоднаю фізічна, але перадусім халоднаю маральна, бо сэрцы людзей на просьбу прыняць цяжарную жанчыну ў свой дом казалі ёй рашучае «не». Такім чынам Марыі і Юзафу трэба было шукаць цяпла сярод жывёл. Нездарма кажуць, што чалавек можа быць настолькі жорсткім, што паступае горш, чым жывёла.

Усё гэта азначае, што Бог, які з вышыні нябёс спусціўся на нашу грэшную зямлю, у гэты цёмны і халодны свет, на самай справе схіліўся над намі. Ён нарадзіўся не ў каралеўскім палацы, але ў Бэтлеемскай стайні, бо павінен быў перамагчы злога духа сваёй пакораю. І кожны, хто знойдзе Яго ў гэтую знакавую ноч, таксама павінен схіліцца...

Тыя, хто шукае Бога, таксама павінны нахіліцца. Нават у наш час, каб увайсці ў грот Нараджэння ў Бэтлееме, найперш трэба моцна нахіліцца, прайсці праз нізкі праход і спусціцца глыбока ўніз. Там неабходна стаць на калені, каб дакрануцца да месца Нараджэння Езуса, дзе на лацінскай мове напісаны словы: *«Hic Verbum Caro factum est» — «Тут Слова сталася Целам».*

Такім чынам, Бог нахіляецца над намі, каб прыйсці да нас. І мы таксама павінны нахіліцца, каб знайсці Яго. Бог не мае ганарлівасці і прыходзіць, каб сваёю пакораю перамагчы яе. Гонар не можа перамагчы гонару. Толькі пакора можа яго перамагчы. Цемра таксама не можа перамагчы цемру. Яна можа быць пераможана толькі святлом.

Толькі самадастатковы, упэўнены ў сабе, упарты чалавек будзе працягваць жыць самазнішчальным жыццём, не гатовы прызнаць, што ён выбіўся з сіл і што яго жыццё зламалася. Але калі чалавек схіліцца перад Богам, то Ён падыме яго ўверх, адновіць і пераменіць.

Праблема ў тым, што мы не маем часу для Бога. Праўда жыцця сучаснага чалавека вельмі суровая. Чым лепшыя сродкі камунікацыі, такія як мабільныя тэлефоны, інтэрнэт, самалёты, хуткія цягнікі і машыны, мы маем, тым менш часу застаецца ў нашым распараджэнні для Бога. Таму сучасны чалавек перажывае сапраўдны парадокс, у выніку якога для Езуса няма месца ў эканоміцы, палітыцы, заканадаўстве і нават рэлігійных практыках.

Сучасны свет жыве так, як быццам Бог і не існуе. Замест Божага закона ён прапануе абсалютную свабоду без адказнасці, замест працэсіі Божага Цела — парады сексуальнай роўнасці, замест урачыстасці Усіх Святых — Хэллоўін, замест віншаванняў на Божае Нараджэнне — сезонныя зычанні, так званыя «Season greetings», і гэтак далей.

Калі завершыцца гісторыя чалавецтва і ўсе яе кнігі будуць напісаны, адным з найбольш сумных сказаў можа стаць такі: *«Богу не было месца ў гасцініцы нашых сэрцаў».*

Самае вялікае няшчасце, калі чалавек размінаецца з прыходзячым Богам.

Сёння мы радаснымі вуснамі ўсклікаем: *«Хвала на вышынях Богу, а на зямлі супакой людзям добрай волі!»* Няхай наша Бацькаўшчына — Беларусь — стане краінай сапраўднага праслаўлення Бога праз захоўванне Яго закона і жыцця згодна з маральнымі нормамі! Няхай у ёй запануе Божы спакой, узаемная згода і паразуменне, падмуркам якіх ёсць спакой у душы кожнага чалавека!

Ад усяго сэрца віншую ўсіх вас са святам Божага Нараджэння! Віншую католікаў і тых хрысціян, якія разам з намі сёння яго адзначаюць! Віншую праваслаўных братоў і сясцёр і жадаю ім падрыхтаваць дарогу прыходзячаму Збаўцы! Віншую ўсіх людзей добрай волі! Няхай прыклад Бога, які схіліўся на грэшным чалавецтвам і стукае ў нашы сэрцы, дапаможа нам у духу пакоры перамагчы нашу пыху і падзелы нашага грамадства, каб мы ўсе ў Езусе Хрысце былі адзінымі.

Радасных, шчаслівых, поўных Божай ласкі і прысутнасці Хрыста ў нашых сэрцах святаў і шчаслівага надыходзячага Новага года!

Хрыстус нарадзіўся — Бог аб'явіўся! Ён стукае ў нашы сэрцы! Іх неабходна адчыніць!

З гэтымі пажаданнямі ў знак нашай духоўнай еднасці дзялюся з усімі вамі аплаткай, даручаю вас апецы Багародзіцы Марыі і ад усяго сэрца благаслаўляю ў імя Айца, і Сына, і Святога Духу.

Амэн.

ДАРЭЧЫ

# Запрашэнне на імшу

24 снежня, у вігілію Божага Нараджэння, Апостальскі Нунцый у Беларусі арцыбіскуп **Клаўдыа Гуджэроці** ўзначаліць святую Імшу на англійскай мове ў мінскай парафіі Найсвяцейшай Тройцы (Святога Роха) на Залатой Горцы (пр. Незалежнасці, 44-А).

Імша пачнецца ў 19 гадзін. На яе запрашаюцца ўсе жадаючыя.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
24 СНЕЖНЯ 2013 г.

КУЛУАРЫ

# «Мы мастакі, а не быдла!»

*Учора такія выразы гучалі на юбілейным з'ездзе Беларускага саюза мастакоў.*

З'езд пачаўся з невялікага, але непрыемнага канфузу. На ўваходзе ў залы Палаца мастацтва стаялі двое хлопцаў з бэджамі *«Административный контроль»*, якія прапускалі мастакоў альбо па пасведчаннях Саюза мастакоў, альбо па запрашальніках. Ля дзвярэй стварыўся невялікі натоўп: спынілі народнага мастака **Васіля Шаранговіча**, а разам з ім — яшчэ некалькі сябраў Саюза. *«Ды што ж гэта такое робіцца!»* — абураліся творцы. Прэсу, дарэчы, хлопцы з бэджамі таксама спачатку не хацелі пускаць. «*Мы маем адпаведнае распараджэнне ад кіраўніцтва Палаца»,* — заявілі яны. «Народная Воля» трапіла ў залу дзякуючы ўмяшальніцтву першага намесніка Саюза мастакоў **Рыгора Сітніцы**, якому таксама не падабалася сітуацыя з «фэйс-кантролем».

На з'езд мастакоў прыехала і кіраўніцтва Міністэрства культуры — **Барыс Святлоў** прыбыў разам са сваім першым намеснікам **Уладзімірам Карачэўскім.** Між іншым, чыноўнікаў на мерапрыемстве было багата: у прэзідыум разам з мастакамі запрасілі прадстаўнікоў Адміністрацыі прэзідэнта, Савета міністраў, Мінгарвыканкама і іншых.

Адна з першых выступоўцаў мастачка **Надзея Лівенцава** прапанавала, каб права голасу на з'ездзе мелі не толькі абраныя дэлегаты, але і ўсе прысутныя ў зале мастакі.

*— З'езд — вышэй за Раду, якая прымала рашэнне па квоце, і мы цяпер можам прагаласаваць, каб мастакі нарэшце перасталі быць беднымі сваякамі*.

Зала падтрымала прапанову апладысментамі, але старшыня Саюза мастакоў **Уладзімір Савіч** папрасіў усіх строга прытрымлівацца рэгламенту. Па ягоных словах, мастакі самі на сходах секцый прагаласавалі за тое, каб на з'ездзе быў адзін дэлегат ад чатырох сябраў Саюза.

*— А я вам магу распавесці, як праходзілі гэтыя сходы*, — узяў слова мастак **Мікалай Бушчык**. — *Рашэнне секцыі скульптараў проста праігнаравалі! А апошняе праўленне Рады не адбылося*...

Вядомы мастак **Уладзімір Басалыга** таксама заявіў, што сходы секцый *«праходзілі пад вялікім уплывам цяперашняга кірўніцтва Саюза».*

*— Вы баіцеся людзей, вы хочаце, каб вас саміх ізноў пераабралі! Сорам!* — звярнуўся Басалыга да кіраўніцтва Саюза мастакоў, якое яшчэ не дало справаздачу, і сарваў апладысменты.

*— Раду наўмысна сарвалі тыя, хто хоча разваліць Саюз мастакоў!* — выказаў сваю пазіцыю мастак **Мікалай Дубрава**.

*— Я вам распавяду, як сарвалі Раду,* — уключыўся ў эмацыянальную сварку ля мікрафона прафесар кафедры жывапісу Акадэміі мастацтваў **Аляксандр Ксяндзоў.** І вельмі коратка нагадаў гісторыю аб тым, як некалькі дзён таму на пасяджэнні Рады Саюза мастакоў прыйшлі творцы, якія не ўваходзяць у яе склад, але па Статуце маюць права прысутнічаць. І калі мастакі пачалі задаваць пытанні, кіраўніцтва Саюза паспрабавала выдаліць іх з залы, прыгразіўшы выклікаць АМАП. У выніку Рада не адбылася, а справа ледзь не скончылася бойкай.

*— Я сказаў: што гэта за практыка палохаць творцаў міліцыяй?* — распавёў падрабязнасці «Народнай Волі» Аляксандр Паўлавіч Ксяндзоў. — *Тым больш усе паводзілі сябе прыстойна. Слова за слова, і раптам, калі сябры Рады ўжо пайшлі на выхад, да мяне падбягае дырэктар Палаца мастацтва (між іншым, сын старшыні Рады Саюза мастакоў), хапае мяне за грудкі са словамі: «Паскуда, мы цябе па сценцы размажам!»*

*Можа быць, хтосьці разлічваў на маю рэакцыю ў адказ, я ў свой час сур'ёзна боксам і каратэ займаўся і прыёмамі адзінаборстваў валодаю. Але каратэ навучыла мяне не толькі кулакамі махаць, але і валодаць сабой. Да таго ж у мяне ў адной руцэ быў капялюш, у другой — торба. Я быў у такім бяскрыўдным становішчы. Вядома, адразу падскочылі калегі, яго адцягнулі ад мяне... На наступны дзень я напісаў Савічу афіцыйны ліст з просьбай разгледзець гэты факт на з'ездзе Саюза мастакоў і даць яму адпаведную ацэнку.*

*«Не трэба быць бязмоўнымі людзьмі,* — прамовіў на з'ездзе **Ксяндзоў.** — *Мы — мастакі, а не быдла!»* Зала яго выступ таксама падтрымала апладысментамі.

Многіх прысутных кранула прамова 89-гадовага **Тараса Мікалаевіча Паражняка**.

*— Я прадстаўляю на з'ездзе ветэранскую групу мастакоў,* — сказаў ён. — *Нас усяго 12 чалавек засталося. Многія не змаглі прыйсці на з'езд, бо прыкаваныя да ложка. А я прыйшоў. Але не маю права голасу...*

У мастакоў, якія прыехалі на з'езд з рэгіёнаў, свая праўда.

*— Мы ехалі сюды ноч у цягніку не для таго, каб паслухаць разборкі мінскіх мастакоў пра тое, як на іх ціснулі на сходах секцый*, — распавялі «Народнай Волі» мастакі з Брэстчыны. — *Ёсць шмат сур'ёзных пытанняў для абмеркавання, а мы палову дня згубілі на гэтыя «цёркі»! Былыя кіраўнікі Саюза цяпер хочуць выглядаць дэмакратамі, але і пры іх таксама «касякоў» розных хапала... А ўвогуле, трэба было пачынаць з'езд не са скандалаў, а з банкета. Тады яшчэ весялей было б...*

Прапанову мастачкі Лівенцавай на галасаванне так і не паставілі — галасавала толькі чвэрць сябраў Саюза. Пасля яшчэ некалькіх кароткіх прамоў аб'явілі перапынак на 10 хвілін, аднак ён зацягнуўся больш як на гадзіну. Пасля з кароткай прамовай выступіў міністр культуры **Барыс Святлоў**, якога прадставілі публіцы як Уладзіміра.

*«Нічога, за гэты час можна было забыцца і на сваё імя, не тое што міністра культуры...»* — знайшоўся чыноўнік.

Выбіраць старшыню пачалі толькі пасля абеду...

**Марына КОКТЫШ.**

**P.S.** ***Наколькі прыбытковая фінансава-гаспадарчая дзейнасць Саюза мастакоў? Ці прызнае Мінюст з'езд Саюза мастакоў легітымным? Хто балатаваўся на пасаду старшыні і каго абралі старшынёй Саюза мастакоў? І што рабілася ў кулуарах пасля абрання новага старшыні Саюза? Пра ўсё гэта і многае іншае «Народная Воля» распавядзе ў наступных нумарах.***



**Мастакі распавядаюць міністру культуры пра свае праблемы.**

## Саюз мастакоў у лічбах

За 2013 год у сябры ГА «Беларускі саюз мастакоў» прыняты 4 чалавекі, за 2012 — 11, за 2010 — 14.

У 2012 годзе паводле рашэння Рады за парушэнне патрабаванняў Статута выключаны 12 чалавек.

Запазычанасць мастакоў за майстэрні (па дадзеных на 1 кастрычніка) складае 294 мільёны беларускіх рублёў.

У РЭГІЁНАХ

## Не п'ём з мелкага посуду?

*Пінскі вінаробны завод асвоіў новы фармат. Цяпер таннае моцнае пладова-ягаднае віно фасуецца ў тэтрапакі.*

Намінальны аб'ём такога пакета — 1 літр, так што аматары «чарніла» з задавальненнем перайшлі на прадукт у сучаснай упакоўцы. Самае галоўнае: віно ў тэтрапаках яшчэ танней, чым яго бутэлечны аналаг. Літр «Персіянкі» каштуе ўсяго 26.650 рублёў, а 0,5 «Зімняга шафрану» — 14.350.

Мясцовыя прадаўшчыцы сцвярджаюць, што пасля змены фармату пакаштаваць пінскае віно можа літаральна кожны. Вось толькі чамусьці не падаецца, што гэта добрая навіна...

## Дружбы народаў не атрымалася

*Пасля бойкі паміж студэнтамі з Туркменістана і мясцовай моладдзю міліцыі прыйшлося ўзяць пад кантроль сітуацыю ў Бар анавіцкім дзяржаўным універсітэце.*

Аб тым, што абстаноўка ва ўніверсітэце неспакойная, у інтэрнэце пішуць беларускія студэнты. Паводле іх слоў, у інтэрнаце №1 было «раскватаравана» дзесяць супрацоўнікаў АМАПу з Брэста.

Усё з-за таго, што не так даўно паміж групай мясцовай моладзі і студэнтамі-туркменамі ўзнік канфлікт. Замежны студэнт зламаў перадплечча 15-гадоваму жыхару Баранавічаў. За ўчыненне дробнага хуліганства грамадзяніна Туркменістана аштрафавалі на 260 тысяч рублёў.

## Хто плюе на магілы продкаў

*У вёсцы Любішчыцы Брэсцкай вобласці смецце з дазволу мясцовых улад выкідваюць літаральна на магілы.*

Чыноўнікі дазволілі апаганьваць старыя могілкі толькі таму, што ў іх няма грошай на кантэйнеры. Таму, каб патрапіць на могілкі, людзям даводзіцца прабірацца скрозь кучы смецця. Адходы скідваюць літаральна ў некалькіх сантыметрах ад магіл. Прычым новыя парадкі пануюць не так даўно, а вось наколькі яны прыжывуцца, сказаць цяжка. Старшыня сельсавета лічыць, што калі ў наступным годзе вакол могілак атрымаецца паставіць новы забор, то праблема знікне сама сабою.

## Забойца не ўцёк

*Праваахоўнікі затрымалі кіроўцу іншамаркі, што насмерць збіў сямігадовага хлопчыка, які разам з маці выходзіў з трамвая.*

Трагедыя адбылася ўвечары ў Віцебску. 7-гадовы хлопчык выйшаў з трамвая на прыпынку разам з маці, якая трымала другое дзіця на руках. 34-гадовы жыхар вёскі Крынкі Лёзненскага раёна, які сядзеў за рулём Volkswagen Passat, здзейсніў наезд на дзіця і ўцёк з месца здарэння.

Схавацца забойца не паспеў, яго затрымалі ўжо праз паўгадзіны. Яшчэ праз 30 хвілін стала вядома, што пацярпелы хлопчык памёр у шпіталі.

Узбуджана крымінальная справа. Вядома, што кіроўца знаходзіўся ў стане моцнага алкагольнага ап'янення.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ



*Елена МОЛОЧКО*

# Бестактные вопросы

Мир меняется. От ЖЭУ №7 Советского района, в котором на обслуживании стоит мой дом, я недавно получила почти любовную весточку: анкету. ЖЭУ интересовался, довольна ли я услугами, которые они оказывают, и что вызывает у меня нарекания. Всего восемь вопросов, а девятый — «ваши предложения».

Я была тронута вниманием. Тем более что глобальных претензий к ЖЭУ у меня нет, в жировках у меня стоят пока вполне божеские цифры, водопроводчики и электрики появляются по первому вызову, капитальный ремонт мы пережили восемь лет назад, и те эмоции, когда иного строителя хотелось придушить своими руками, уже основательно подзабылись. Теперь разве что уборка двора и нашего маленького переулка волнует — хотелось бы чаще и чище. Даже так: личностнее. Чтобы убирали тротуар, стригли траву, ухаживали за цветниками и кустарниками, как... у Администрации президента на Карла Маркса. А почему бы и нет? Лично у меня такая планка.

Но нет дворников в ЖЭУ. Их не хватает в районе, в городе. Я понимаю, на маленькую зарплату нет желающих, а платить большое денежное вознаграждение нет возможности у нас с вами, то есть квартиросъемщиков и собственников квартир. Мы же не согласимся увеличить свои ежемесячные расходы на коммунальные платежи еще на сто тысяч, не так ли? А благоустроенность любит деньги. Чисто там, где хорошо платят тому, кто убирает.

В общем, я была, как говорится, в философском настроении, пока не дошла до следующих вопросов в анкете: «Принимаете ли вы участие в месячниках и субботниках по уборке и благоустройству дворовых и внутриквартальных территорий?» и «Принимаете ли вы лично участие в мероприятиях по озеленению и цветочному оформлению придомовой территории?».

Мой ответ: нет. Или даже: конечно, нет. Да и с чего бы это? О месячниках я слыхом не слыхивала. О коллективных мероприятиях по озеленению кварталов тоже. И вряд ли пошла бы, даже узнав о таковых, признаюсь вам. К коллективному безвозмездному труду я отношусь скептически, а к настойчивым призывам «участия» — вообще плохо. Правда, в день субботника (впрочем, не только в тот день), я убираю холл своего подъезда, мою входную дверь, соскребая объявления. Но делаю это как можно раньше утром, не демонстративно — чтобы никто из соседей меня не видел и не испытывал неловкости, что не помогает мне. Я убираюсь лично для себя, а не ради воспитательных целей окружающих. А соседи мои уж тем хороши, что все они очень приличные люди. И тоже, наверное, что-то делают для общежития, потому что в доме у нас, в общем-то, порядок.

Но работники ЖЭУ «ненавязчиво» нагружают нас виною: вот не участвуете, а требуете... На что им хочется ответить следующее. Вы, как люди образованные, конечно, читаете иногда газеты или электронные СМИ, то есть пользуетесь плодами нашего труда. Но мы, журналисты, ведь не приглашаем вас безвозмездно помогать нам в работе, верно? Или так: вы, как и все люди, пользуетесь услугами здравоохранения, ходите в поликлиники, но врачи не задают вам вопросов с подтекстом: участвуете ли вы на «ленинских» началах в уборке их больничных коридоров, не так ли?

И подобных параллелей с другими профессиями можно провести десяток. Мы все пользуемся трудом друг друга. При этом оставаясь каждый на своем профессиональном месте, как говорится, каждый на своей кафедре. И именно там стараемся максимально принести пользу обществу. Почему господа из ЖЭУ считают, что имеют право так бестактно спрашивать о нашем добровольном участии в их профессиональных делах? Выходит, раз мы в свои выходные не помогаем им в работе, то, видимо, несем ответственность за их бесхозяйственность, упущения, леность, нерасторопность? Ну уж нет!

У нас, жильцов, есть одна святая обязанность: вовремя платить по жировкам. А также конституционная: не нарушать общественный порядок и Уголовный кодекс. А обслуживать территорию вокруг наших домов мы наняли вас, уважаемые! Разве это не очевидно? Мы недостаточно платим, а требуем многого? Возможно. Но вопрос этот дискуссионный, и он в компетенции вышестоящих исполнительных органов, ответственных за порядок в городе и бюджет, выделенный на эти нужды. Обращайтесь к исполнительной власти или к районным депутатам, в конце концов. У вас достаточно полномочий. Вы разве не чувствуете — мир меняется! На субботниках далеко не уедешь. Надо и самим учиться эффективно работать.

САЛІДАРНАСЦЬ

## Павіншуем палітвязняў з Калядамі і Новым годам!

*Былы кандыдат на пасаду прэзідэнта Мікалай Статкевіч у тэлефоннай размове з жонкай прасіў павіншаваць усіх неабыякавых людзей з Калядамі і Новым годам, пажадаў «добрых перамен, не губляць надзеі і ніколі не здавацца». Павіншуем і мы палітвязняў з Калядамі і Новым годам!*

**Адрасы палітвязняў:**

**Алесь Бяляцкі**
213807, Магілёўская вобл., г. Бабруйск, вул.Сікорскага, 1, ПК №2, атрад №14.

**Эдуард Лобаў**
225295 Брэсцкая вобл., г.Івацэвічы, «Воўчыя норы», а/с 20, ПК №22.

**Мікола Статкевіч**
212011 г.Магілёў, вул.Крупскай, 99а, ПК №4.

**Мікалай Дзядок**
212011 г.Магілёў, вул.Крупскай, 99а, ПК №4.

**Ігар Аліневіч**
211440 Віцебская вобл., г.Наваполацк, вул.Тэхнічная, 8, ПК №10.

**Яўген Васьковіч**
212011 г.Магілёў, вул.Крупскай, 99а, ПК №4.

**Арцём Пракапенка**
212013 г.Магілёў, Слаўгарадская шаша, 183, ПК №15.

**Мікалай Аўтуховіч**
230023 г.Гродна, вул.Кірава, 1, турма №1.

**Васіль Парфянкоў**
220030 г.Мінск, вул.Валадарскага, 2, СІЗА-1.

**Уладзімір Яроменак**
225413 Брэсцкая вобл., г. Баранавічы, вул.Брэсцкая, 258, СІЗА №6.

**Андрэй Гайдукоў**
213030 г.Магілёў, Слаўгарадская шаша, 3 км, ПК №19.

ІНІЦЫЯТЫВА

## Шэсць канкрэтных пытанняў

Агучаны шэсць пытанняў, якія былі сфармуляваны па выніках падрыхтоўкі ініцыятывы «Народны рэферэндум».

Нагадаем, што першапачаткова было адабрана 10 найбольш важных тэм, з якіх планавалася пакінуць толькі пяць. І ўсё ж цягам адбору ініцыятары «Народнага рэферэндуму» спыніліся на шасці праблемах, якія хвалююць беларускае грамадства.

**1.** Ці згодны вы, што ў дзяржаўных установах адукацыі і аховы здароўя ўсе паслугі павінны аказвацца бясплатна?

**2.** Ці згодны вы, што кіраўнікі выканкамаў гарадоў, раёнаў, абласцей павінны абірацца прамым галасаваннем грамадзян?

**3.** Ці падтрымліваеце вы курс на эканамічную інтэграцыю, асацыяцыю і стварэнне бязвізавай прасторы з Еўрапейскім Саюзам?

**4.** Ці згодны вы, што дзеля забеспячэння нейтральнага статусу Беларусі ў краіне павінна быць забаронена размяшчэнне замежных вайсковых аб'ектаў, ядзернай зброі, а беларускія вайскоўцы не павінны несці службу за мяжой?

**5.** Ці згодны вы, што адна і тая ж асоба не можа займаць пасаду прэзідэнта больш за два тэрміны?

**6.** Ці згодныя вы, што грошы, атрыманыя ад запланаванай урадам прыватызацыі, у першую чаргу павінны пайсці на кампенсацыю ўкладаў, згубленых падчас дэвальвацыі-2011 і стварэнне працоўных месцаў?

ЭКАНОМІКА

## У абмен на нафту

Масква і Мінск дамовіліся пра пастаўкі нафты ў Беларусь у аб'ёме 11,5 мільёна тон у першым паўгоддзі наступнага года. Менавіта столькі прасіў беларускі бок.

Калі аб'ёмы паставак захаваюцца ў другім паўгоддзі, то агульная гадавая колькасць складзе 23 мільёны тон, гэта нават больш, чым сёлета. Адкуль такая шчодрасць?

Аказваецца, у абмен на нафту Расія хоча ўвайсці ў пяць беларускіх прыбытковых прадпрыемстваў — ААТ «Мінскі завод колавых цягачоў», ААТ «Інтэграл», ААТ «Пеленг», ААТ «Гродна Азот», а таксама ААТ «Мінскі аўтамабільны завод».

Нагадаем, што менавіта нафтапрадукты застаюцца асноўнай крыніцай валюты для Беларусі і напярэдадні падпісання пагадненняў аб пастаўцы сырой нафты беларусы традыцыйна пагаджаюцца на многія расійскія прапановы. А што будзе потым — паглядзім.

АКТУАЛЬНАЯ ТЕМА

# Когда подешевеет шенгенская виза для белорусов?

*В конце ноября на саммите «Восточного партнерства» в Вильнюсе министр иностранных дел Беларуси Владимир Макей заявил о том, что наша страна готова начать с ЕС переговоры об упрощении визового режима. Означает ли это, что уже в новом году ездить в Европу станет проще и дешевле?*

### Визовый режим

В 2014 году для граждан Молдовы, скорее всего, поездки в Европу станут безвизовыми. Таков результат сотрудничества между Молдовой и Европейским Союзом в рамках программы «Восточное партнерство».

Беларусь, как известно, тоже одна из шести стран-участниц этого проекта, стартовавшего в 2009 году. Но по сути с 2010 года участие нашей страны в «Восточном партнерстве» было заморожено. То, что потеряет Беларусь, если полностью откажется от сотрудничества с ЕС, нетрудно представить. О многом говорит анализ того, что получают другие страны-участницы, выразившие желание установить более тесные контакты с Европой. Но есть момент, который и без этого понятен любому обывателю. Это либерализация визового режима.

Для жителей трех стран-партнеров «Восточного партнерства» – Молдовы, Грузии и Украины – шенгенские визы уже давно стоят 35 евро, в 2014 году по таким же ценам их смогут получать армяне и азербайджанцы. А для молдаван в новом году поездки в Европу, судя по всему, станут вообще простым делом: купил билет – и езжай, куда душа пожелает. Во всяком случае очень многие эксперты ЕС высказывают мнение, что шенгенская виза для Молдовы в 2014 году будет отменена.

А что белорусы? При средней зарплате по стране около 430 евро шенгенская виза стоит 60 евро. При этом еще нужно выстоять изнурительную очередь в посольстве, собрать кучу документов... Но, к сожалению, не всегда получается увидеть заветный штамп в своем паспорте.

*– Мой приятель из Беларуси уже 8 лет имеет собственную фирму в Гданьске*, – рассказывает депутат польского сейма **Малгожата Мартинкевич.** – *Недавно звонит мне и просит помочь открыть шенгенскую визу. Оказывается, он подал документы в польское посольство, но, когда подошла его очередь, в визе ему отказали, потому что истек срок действия справки, которую он получал в Национальном судебном реестре. А ему надо срочно ехать в Польшу платить налоги, ведь заканчивается год.*

### Лед тронулся?

*– Мы очень давно начали говорить с Беларусью о визовой либерализации,* – говорит аналитик Польского института международных дел **Анна Мария Дынер** *(на фото). – Но был ответ, что у Беларуси не подписан договор о редмиссии с Россией, и Беларусь не может взять на себя ответственность за всех нелегалов-мигрантов из России, которые будут пытаться попасть в Европу через Беларусь. Но в ноябре соглашение о редмиссии между Россией и Беларусью подписано.*



*– На саммите в Вильнюсе мы услышали заявление от представителя Беларуси, что Минск заинтересован начать переговоры о визовой либерализации,* – подчеркивает глава департамента Восточной Европы МИД Польши **Мартин Жоховский** *(на фото). – И этот процесс может быть начат в любой момент. Евросоюз давно к нему готов, сейчас все зависит от властей Минска.*



К слову, на Вильнюсском саммите состоялась встреча министров иностранных дел Польши и Беларуси Радослава Сикорского и Владимира Макея, о которой в Беларуси официально не упоминалось. О чем говорили дипломаты – не известно. *«После такого долгого перерыва встреча не могла быть содержательной и продолжительной*, – отметили в польском МИД. – *Стороны декларировали желание улучшить отношения».*

Возможно, первый реальный шаг в направлении визовой либерализации будет сделан со стороны официального Минска уже в начале нового года. По словам польских дипломатов, на январь 2014 года запланирован визит заместителя министра иностранных дел Беларуси Елены Купчиной в Брюссель. В Евросоюзе не исключают, что главной темой во время визита станет либерализация визового режима для Беларуси. И ЕС готов подписать с Беларусью соглашение об упрощении визового режима. Даже в ситуации, если не будут отпущены на свободу политзаключенные. Как известно, это одно из главных условий ЕС в вопросе сотрудничества с Беларусью.

*– Это не уступки*, – отметил сотрудник департамента Восточной Европы МИД Польши **Стефан Хейдович**. – *Это попытка Европы сделать открытой границу для граждан Беларуси.*

Как долго может идти процесс подписания соглашения об упрощении визового режима для Беларуси? Украине, например, потребовалось больше года, чтобы шенгенские визы для граждан страны подешевели до 35 евро.

*– Беларусь должна будет подписать соглашение о редмиссиии с Евросоюзом,* – пояснила Анна Мария Дынер. – *Думаю, что на это не потребуется много времени.*

Эксперт подчеркнула, что *«упрощение визового режима – это техническое решение. И это проще, чем договор о малом приграничье».* Как известно, договоры о малом приграничье между Польшей и Беларусью, а также Литвой и Беларусью было подписаны еще в 2010 году. Польша ратифицировала документ сразу же, в 2010 году, Литва – в 2011-м. Ответных шагов со стороны официального Минска нет до сих пор.

К СЛОВУ

### Может ли Европейский Союз в одностороннем порядке уменьшить стоимость виз для белорусов?

Белорусские власти два года не соглашались на переговоры с Евросоюзом по вопросу визовой либерализации. И никто из европейских экспертов до конца не уверен, что получится достичь результата и на этот раз. Что мешает Евросоюзу снизить цену на шенгенскую визу для белорусов в одностороннем порядке? Возможен ли такой вариант?

По словам координатора программы «Открытая Европа» польского фонда имени Стефана Батория **Кшиштофа Мрозека,** в конце октября – начале ноября МИД Германии внес на рассмотрение в Еврокомиссию предложение об одностороннем снижении стоимости шенгенских виз для граждан Беларуси с 60 до 35 евро, сохранив стоимость белорусских виз для граждан ЕС прежней. По словам Кшиштофа Мрозека, визовый кодекс предусматривает такие возможности в ряде случаев.

«Есть надежда, что может быть принято такое решение», – подчеркнул он. Но, безусловно, ЕС рассчитывает подписать с Беларусью полноценный договор об упрощении визового режима, а в конечном итоге и полностью отказаться от виз.

**Мария ЭЙСМОНТ.**
*Варшава–Минск.*

ПРЭМ'ЕРА!

# Мікалай Пінігін прэзентуе «Пана Тадэвуша»



*У афішы Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы на 15, 16 і 17 студзеня наступнага года запланавана буйная прэм'ера — шляхецкая гісторыя ў дзвюх дзеях «Пан Тадэвуш» паводле паэмы Адама Міцкевіча ў пастаноўцы Мікалая Пінігіна.*

Інсцэніроўку зрабіў **Сяргей Кавалёў**. Гэта будзе першая сцэнічная версія паэмы Адама Міцкевіча ў беларускім тэатры. Дзеянне ў творы развіваецца на працягу пяці дзён 1811-га і аднаго дня 1812 года. Апісаныя там падзеі адбываюцца на берагах Нёмана напярэдадні прыходу Напалеона на нашы землі.

У спектаклі зайдзейнічана амаль уся мужчынская частка трупы: там каля 30 мужчынскіх роляў.

*— Пана Тадэвуша будзе іграць* ***Павел Харланчук****, Графа —* ***Раман Падаляка****, Талімену —* ***Святлана Анікей і Юлія Шпілеўская****, Зосю —* ***Марта Голубева*** *і маладая артыстка, якая нядаўна прыйшла да нас у тэатр,* ***Крысціна Казак,*** — распавёў рэжысёр Купалаўскага **Мікалай Пінігін.** — *У Беларусі, як мне падаецца, раней ніхто не ставіў «Пана Тадэвуша». Для мяне гэта тое ж самае, што для рускіх «Война и мир» Талстога. Я даўно хацеў зрабіць гэты праект, для мяне ён асветніцкі. Трэба тлумачыць, чаму паэта, які амаль ніколі ў Польшчы не быў, вывучаюць у польскай школе. Большасць беларусаў не тое што зусім не чыталі твор, але ўвогуле не разумеюць, што там адбываецца. Гэта 1812 год. Прыход Напалеона, які першым адмяніў прыгоннае права ў Варшаўскім герцагстве. Але пра тое, як да яго ставіліся ў Беларусі, амаль не гавораць. У нас больш ведаюць гісторыю савецкага перыяду...*

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Юрыю Данькову далі 8 гадоў турмы

*Дзяржабвінаваўца прасіў суд асудзіць бізнесмена на дзевяць гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці, але суд змякчыў пакаранне на адзін год.*



Уладальнік Dankoff Club Юрый Данькоў быў затрыманы 4 верасня 2012 года. Яго абвінавацілі адразу па сямі артыкулах Крымінальнага кодэкса: ухіленне ад выплаты падаткаў, арганізацыя і ўтрыманне прытона для заняткаў прастытуцыяй, падробка і ўнясенне лжывых звестак у дакументы, спробы дамагчыся фальсіфікацыі доказаў ад асобы, што ўдзельнічае ў грамадзянскай справе, уцягванне жанчын у заняткі прастытуцыяй, захоўванне з мэтай рэкламавання і рэкламаванне парна-графічнага матэрыялу, а таксама публічная дэманстрацыя відэафільма парнаграфічнага зместу.

Адбываць пакаранне Данькоў будзе ў папраўчай калоніі ўзмоцненага рэжыму. Яму таксама забаронена на працягу пяці гадоў займаць пасады, звязаныя з выкананнем арганізацыйна-распарадчых функцый. Акрамя таго, з былога бізнесмена спагналі ў даход дзяржавы 1 мільярд 104 мільёны рублёў, а таксама на карысць пацярпелай Дудзінскай — 10 мільёнаў рублёў.

ВЕДАЙ НАШЫХ!

## У Гюнеш другое месца на Turkvision

*У фінале першага Міжнароднага песеннага конкурсу Turkvision беларуская спявачка Гюнеш Абасава скарыла публіку «Апошнімі ўспамінамі»...*

Гюнеш выйшла на сцэну пад другім нумарам, каб выканаць кампазіцыю ўласнага сачынення. Дарэчы, спявала артыстка на турэцкай мове. Адно з галоўных правілаў маладога конкурсу-двайніка «Еўрабачання» — кампазіцыя павінна быць выканана на дзяржаўнай мове прымаючай краіны. Першы ў гісторыі конкурс прымаў турэцкі горад Эксішэхір.

Пераможцам конкурсу Turkvision стаў спявак з Азербайджана **Фарыд Гасанаў**. Гюнеш адстала ад яго ўсяго на 5 балаў. Трэцяе месца заняў прадстаўнік Украіны.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**



СЕКРЕТЫ НАРОДНОЙ МЕДИЦИНЫ

# Николай ОГРЕНИЧ, фитотерапевт: «Все травы — лечебные»

*Не бывает лекарственных сборов от почек или травок для сна, утверждает известный белорусский травник из Барановичей Николай Огренич. К каждой болезни нужно подбирать свой метод фитотерапии, и тогда растения и вправду могут сотворить чудеса.*

### Универсальных сборов не бывает

Николай Антонович работает врачом УЗИ-диагностики в одном из лечебных заведений Барановичей. До этого много лет трудился в родильном отделении, но особую славу снискал как искренний поклонник фитотерапии. По его личному признанию, в год он собирает боле тонны целебных трав! В столицу доктор приехал, чтобы ответить на вопросы посетителей выставки «50 плюс» и презентовать книги «История фитотерапии в Беларуси» и «Фитотерапия семейного врача». Первую книгу написала юная ученица Огренича, а вторую он создал в соавторстве с коллегами. «Фитотерапия семейного врача» готовится к переизданию, в новом формате в ней появится еще больше рецептов и советов, как грамотно использовать возможности природы. Николай Антонович отметил, что каждый может найти нужную траву или комбинацию растений для поддержки своего здоровья. Вот только обязательно нужно помнить о том, что ***универсальных лекарств не бывает***.

*«Пить целебные сборы «от чего-то» — неправильно,* — неожиданно для многих начал доктор. — *У каждого фитолечение должно быть своим, с учетом индивидуальных особенностей. Самому младшему пациенту, которому я посоветовал лечиться бальзамом гребешка с чистотелом, было девять месяцев, а самому старшему — за 100 лет. Но это не значит, что у них были одинаковые дозы*.

*«Нельзя говорить, что вот эта трава от почек, а эта — от желудка. Если травник или доктор говорит, что сбор универсальный, даже не взглянув на ваши анализы, бегите от него!»*

### (Бес)полезные травы?

Доктор Огренич говорит, что сегодня пользуется теми же средствами, которые когда-то знал его прапрадед.

*«На Западе сборы делают по группе крови,* — рассказал врач. — *В растениях содержатся те же элементы, что и в нашей крови! У фитотерапии тысячелетняя история...»*.

Доктор признался, что, когда только приехал в Барановичи, сразу же отправился искать местных травников. На базаре ему встретились две женщины, одна из которых довольно известна в Беларуси.

*«Мы вместе исколесили все окрестные леса,* — вспоминает врач. — *Она показывала мне новые растения, рассказывала рецепты. Ведь книг у нас не так уж и много, поэтому некоторые сборы так и готовятся по преданию»*.

Вторая барановичская травница оказалось не такой коммуникабельной и отказалась поделиться с ним своими рецептами.

*«Знакомая травница рассказала мне о траве, которую в этой местности почему-то называют крушанкой, хотя реально это матка боровая,* — вспоминает доктор. — *Она уверяла, что это специфическая женская трава, которая помогает при фибромиомах матки. У меня тогда не было опыта использования этой травы. Но теперь есть целая стопка наблюдений, которая свидетельствует, что десятки женщин недетородного возраста только ухудшили свое состояние, принимая эту, казалось бы, очень полезную траву. Оказалось, что при несоблюдении дозы и длительном применении матка боровая активизирует выработку собственных гормонов, что противопоказано при фибромиоме!»*

Добрая знакомая Николая Антоновича благодарила его за новые знания, а вот вторая травница не поверила в исследования и, возможно, так и продолжает рекомендовать больным женщинам опасное лечение.

### Травы не отравы

Николай Антонович несколько раз напомнил, что травяные средства стоит периодически менять, применять «*маятникообразно*» — несколько дней один сбор, затем — другой. При этом фитотерапевт настаивает: *«В природе нет нелечебных трав, есть те, о которых мы мало знаем. В своей практике я использую 100, может, 110 видов трав, но их значительно больше»*.

Неужели растения действительно могут оказать необыкновенно благотворный эффект на наш организм?

*«Резерв нашего здоровья — в травах,* — уверен врач. — *На 50% он зависит от нашего генофонда и еще на 50 — от образа жизни. Не секрет, что здоровый образ жизни предполагает максимально возможное употребление растительной пищи. Лечение травами иногда называют самолечением, но все относительно. Можно ли так назвать ежедневное чаепитие фитосбора? На съемках телепередачи, посвященной самолечению, я спросил врача-токсиколога, много ли за год поступило больных с отравлениями травами. Оказалось, не было ни одного!»*

Желающих лечиться и консультироваться у доктора Огренича очень много. Врач старается по возможности помогать всем, довольно часто выступает с лекциями на православных выставках, устраивает «Прямые линии». Всем своим пациентам доктор советует быть внимательными к своему здоровью и помнить, что все хорошо в меру. Даже фитотерапия.

**Мария МАЛЕВИЧ.**

НА ЗАМЕТКУ

## Ромашка выведет шлаки, а имбирь улучшит обмен веществ

- Петрушка, фенхель, анис, укроп — способствуют нормализации пищеварительной системы.
- Розмарин, имбирь, цветки бузины, куркума, крапива — помогут улучшить обмен веществ.
- Семена льна, дягиль лекарственный, корни алтея — снижают аппетит.
- Барбарис, одуванчик, медвежьи ушки, брусничные листья — обладают желчегонным и мочегонным эффектом.
- Анис, ромашка аптечная, укроп, тысячелистник — помогут вывести шлаки из организма, восстановить нормальную деятельность кишечника.
- Листья крапивы, черная смородина, малина, брусника, шиповник, рябина — источники полезных витаминов и минералов.

***Не забывайте, что к выбору травяных сборов стоит относиться с осторожностью, как и к любому лечебному препарату, чтобы не навредить здоровью.***

**Вера ВИР.**

ШОПІНГ ПА-БЕЛАРУСКУ

# Санітары крам

*Напярэдадні святаў беларусы вычышчаюць паліцы ў гандлёвых кропках Вільнюса. Цягнуць усё — ад элітнай макароны да мандарынаў.*

Многія беларусы адпраўляюцца ў шопінг-туры ў суседнюю сталіцу спецыяльна, каб грунтоўна закупіцца перад навагоднімі святамі. Пры гэтым традыцыйныя скідкі пачнуцца толькі пасля Новага года. Напрыклад, гандлёвы цэнтр «Озас» праз беларускую радыёрэкламу запрашае ўсіх жадаючых наведаць марафон 70%-ных скідак з 10 па 12 студзеня.

Між тым ужо сёння беларусы пакідаюць паліцы ў крамах Вільнюса пустымі, а цягнікі «Мінск—Вільнюс» ідуць перапоўненыя. Танных квіткоў не купіць нават на перадсвяточныя дні.

*«Я жыву ў самым цэнтры Вільнюса, а на вучобу езджу на ўскраіну,* — прызнаецца беларуская студэнтка Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта Ганна. — *Апошнім часам каля дома пасля сёмай амаль нічога не магу набыць на вячэру. Суайчыннікі змятаюць усё, нават «хуткія» салаты і сэндвічы. Паліцы з кавай і алкаголем пусцеюць імгненна»*.

Традыцыйна беларусы набываюць у Літве адзенне і абутак, парфумерыю. На гэтых таварах атрымліваецца сэканоміць, бо з пакупкі на суму больш за 100 доларaў можна вярнуць частку грошай, зняўшы VAT (НДС). Літоўскія мытнікі адзначаюць, што ўсё больш беларусаў здымаюць VAT з прадуктаў харчавання. Каб дасягнуць патрэбнай для вяртання часткі грошай сумы, набываюць усё, што бачаць, — танны шакалад, літровыя бутэлькі адбельніка, мандарыны.

**Сяргей ШЭЛЕСТ.**

ВЯСКОВАЯ БЫЛЬ

# «Якая ўлась — такая й мазь!»

*Зміраe вёска. Даўно няма гэтых людзей. Карп — мой дзед, Ахрэміха, Захарка, Хомка, суседзі і аднавяскоўцы... Яны, на свой лад, асэнсоўвалі тагачаснае жыццё і прадракалі будучыню. Усе пайшлі на той свет, пакінуўшы аб сабе памяць у выразах, якія дайшлі да нашых дзён і якімі час ад часу карыстаемся мы, унукі.*

*Неаднаразова чуючы гэтыя нявыдуманыя гісторыі з сялянскага жыцця, я сабраў іх разам. Дакументамі-фотаздымкамі і ўспамінамі таго часу са мной ахвотна падзяліўся сельскі фатограф, мой сусед — 83-гадовы Мікалай Паўлавіч ХОРАЎ.*

...Хвіліну Карп ляжаў, гледзячы на святло, што прабівалася праз фіранку, але, пачуўшы трэск запаленых у печы дроў, устаў і пачаў апранацца. У ложку каля акна спаў Сеўка, унук. Ён прыехаў з Барысава і будзе тут да самай восені.

«Усё вакол калгаснае, усё вакол маё», — гэтыя словы ўжо які час не выходзяць з галавы, вымушаюць Карпа прачынацца і ісці ў двор да хлявоў даглядаць коней.

Вялікія хлявы братоў Архіпа і Карпа Гаўрылавых, якія стаяць побач з іх хатамі, абагульнілі ў калгас, і зараз гэта калгасная стайня. Браты жывуць побач на падзеленай пароўну бацькавай зямлі, маюць жонак і па пяцёра дзяцей.

Жывуць не надта багата, але і беднымі не лічацца. Усё — сваім мазалём. Дапамагаючы адно аднаму, паставілі вялікія новыя гаспадарчыя будыніны.

Ды не дай Бог жыць у часы перамен. Але ж гэта здарылася. «Добраахвотная» калектывізацыя вымусіла аддаць усё — зямлю, коней, інвентар, бо раскулачванне і высылка ў Сібір Нікіфара Сака з сынам падштурхнула многіх не працівіцца ўладам.

Не абышлося без трагедыі. Жонка Івана ўбачыла, як той на вяроўцы вядзе з хлява сваю карову ў калгас, і, галосячы «Іван, Іван, што ты робіш!», задраўшы спадніцу, каб не замачыць, пабегла праз балота да ракі. Яе пераняалі, прывялі дадому, паклалі ў ложак. Больш яна нікуды не выходзіла і праз тыдзень памерла...

Карп памятае той восеньскі, сярод тыдня, дзень і той сход, на які вяскоўцам трэба было сабрацца ў школе. Хадзілі чуткі, што ўсё тваё стане агульнае і ўсе будуць працаваць на адну кішэню, а ўжо з яе будуць выдаваць кожнаму па патрэбе.

У самым вялікім класе школы стаялі лаўкі. Гучна вітаючыся, мужыкі садзіліся, размаўлялі, смяяліся. Зрабіўшы галоўныя гаспадарчыя справы і заходзячы па шляху адзін да аднаго, з нагоды сходу не прамінулі і выпіць, бо дзень усё роўна страчаны.

Кіраўнікі спазняліся, а калі прыехалі, мелі заклапочаны выгляд. Доўга чыталі паперы, штосьці тлумачылі, адказвалі на пытанні. Усё зводзілася да таго, што дзяржава мае клопат аб сялянах, аб іх дабрабыце, і ім трэба свае ўласныя падворкі аб'яднаць у адну гаспадарку. Дзень сыходзіў, пытанні пацііху змаўкалі. Густы дым ад самасаду і святло ад лямпы, што біла ў вочы, не замінаалі старшыні сходу бачыць залу. Трэба было заканчваць сход і запаўняць пратакол.

— Дык хто за аб'яднанне ў адзіную гаспадарку? Падыміце рукі.

Гэтая прапанова паляцела ў пустату, бо не было чутна ні абурэння, ні падтрымкі. Старшыня і сакратар выйшлі з-за стала і пайшлі ўздоўж сцен, каб падлічыць галасы. Але... Клас быў ужо пусты. Толькі адзін п'яны Захарка спаў пад лавай.

— Што будзем рабіць? — запытаўся сакратар.

— Пішы «аднагалосна», — адказаў старшыня.

Праз некаторы час у вёсцы Вялікія Негнавічы даведаліся, што створаны тут калгас мае назву «Бядняцкая перамога» і ўжо аднекуль прыехаў чалавек, прызначаны старшынёй калгаса. Нават ёсць першыя актывісты, што ўступілі ў калгас. Гэта Захарка і Хомка.

Захарка мог здаць у калгас толькі дзяцей, якіх у яго было аж шасцёра. Праўда, была і карова, ды толькі дзякуючы ёй гадаваліся дзеці. Як яе здасі?

А Хомка — той быў заядлы рыбак і вырошчваў табаку. У яго заўсёды можна было купіць на любы густ самасаду. У калгас ён мог здаць хіба што вуды ці фунт таго ж самасаду.

Што рабіць, якое прыняць рашэнне — такая думка свідравала мазгі вяскоўцаў. Ці ёсць сэнс працаваць і нешта назапашваць, калі ўсё роўна адбяруць і падзеляць, ці мо лепш аддацца плыні лёсу?

...Братоў пазбавілі, акрамя коней і кароў, яшчэ і хлявоў. Праўда, казалі, што гэта часова. Але няма нічога больш вечнага, чым тое часовае. Братоў запэўнілі, што яны будуць працаваць тут, пры двары: Карп — конюхам, Архіп будзе даглядаць інвентар. Архіп і раней меў прыробак — гнуў дугі і палазы для саней. Неяк позна вечарам, выйшаўшы з хаты і пачуўшы прыглушаную гамонку з-за хлявоў, Карп падумаў, што дзятва раскоўзвае салому. Адчыніўшы браму на агарод, прайшоў за сціртту — і ўбачыў Захарку і Хомку. Абодва накладвалі ў посцілкі калгасную салому.

— Дык што, крадзем?

— Ды не, Гаўрылавіч. Тут жа ўсё вакол калгаснае, усё вакол маё, — пачаў апраўдвацца Захарка.

— Ад вялікага ўзяць крыху — то не крадзеж, а размеркаванне, — дадаў Хомка.

Назаўтра Карп пераказаў начную размову Архіпу, і той, бачачы ўзрушанасць брата, паспрабаваў суцешыць яго парадай: «Падумаеш, і ты скрадзі». Той з дакорам паглядзеў на яго:

— Не, браток, колькі ні крадзі, а свайго не вернеш. У нас больш скралі.

— Ну дык што, хочаш пакараць іх, як Мар'яна?

Карп памятае той выпадак у вёсцы Грэбло. Было гэта яшчэ, як жылі аднаасобна.

Пакатае ўзвышша, на якім жыў Матэвуш, заканчвалася балотам. Сядзіба Матэвуша стаяла воддаль ад асноўнай забудовы вёскі. А з суседняй, з Аскерак, панадзіліся хадзіць начамі красці ў Грэбло. Ужо не раз былі і ў Матэвуша. Доўга падпільноўваў у патаемным месцы, не спаў начамі, а калі прыйшлі і ён спужаў іх, то пабеглі праз балота. Усе паўцякалі, а Мар'ян заграз. Звязаўшы злодзея, Матэвуш прыцягнуў яго ў клець і пакінуў да раніцы. Раніцай сабраў мужыкоў, і было прынята рашэнне...

Мар'яна паклалі на калёсы, прывязаўшы да дышля, зверху на ім ляжаў пасцельнік (шчыт калёс). На шчыт быў пакладзены вялікі камень. Павезлі па вёсцы, спыняліся каля кожнага двара, гаспадар двара падымаў камень і з усяго маху біў па шчыце. Мар'яна не забілі, а прывезлі да Аскерак і выкулілі з воза. Праз тры дні ён сам памёр.

Нікога не судзілі, бо ніхто і не заяўляў. Але на гэтым крадзяжы супыніліся...

...Архіп, ад'язджаючы ў лес, каб нарыхтаваць жэрдкі для аглабляў, папрасіў Карпа нагадаць старшыні, што трэба кагосьці паслаць у горад за каламаззю.

Пачухаўшы патыліцу, старшыня параіў:

— Схадзі па дварах, збяры мазь у тых, у каго засталася, усё роўна яна ім не патрэбна, бо ні коней, ні калёсаў у гаспадарках няма.

Старшыня быў ужо воддаль, калі хтосьці з мужыкоў папракнуў Карпа:

— Чаго ты лезеш са сваімі прапановамі? Узяліся кіраваць, дык няхай цяпер і думаюць. Раней табе ніхто не падказваў, калі купляць мазь ці калі сеяць.

Старшыня быў не тутэйшы і не ведаў людзей. Карп нікуды не пайшоў, а прынёс свае апошнія прыпасы мазі, каб трохі пратрымацца.

— Дзед, а чаго ў стойле конь капытом у сцяну лупіць? — пытаецца Сеўка.

— А... Дык гэта ўчора на ім у лес ездзілі. Нагрузілі воз, а ён не цягне. Лупцуюць дубцом, а ён танцуе ў аглаблях і ні з месца. Тады яны звітую з каноплі, яшчэ не абцёртую вяроўку заклалі пад хвост і давай цягаць. Як запякло ў каня пад хвастом, як ірвануў ён, дык да самага дому без спынення і цягнуў воз. А цяпер рана пад хвастом закарэла, вось і б'е капытамі, каб заглушыць свае пакуты...

*(Заканчэнне на стар. 8).*

**Здымкі вяскоўцаў, зробленыя ў пасляваенныя часы.**



ВЯСКОВАЯ БЫЛЬ

# «Якая ўлась — такая й мазь!»

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

Раніцай мужыкі прыйшлі запрагаць коней і, рыхтуючы калёсы да працы, пытаюцца:

— Карп, а дзе каламазь?

— Сучка з'ела, — адказаў той.

Так і прыжыўся гэты выраз. І калі хтосьці казаў нешта неверагоднае, то людзі гаварылі: «Праўду, праўду кажа, што сучка мазь з'ела».

Сонца ўжо добра прыпякае. Старшыня знаходзіцца тут. Захарка і Хомка, здаецца, хутчэй за ўсіх кладуць вазы ды спрытней паганяюць коней. Гэта сёння. А ўчора старшыня толькі перад абедам хапіўся, што абодвух няма на працы.

Пад'ехаў да двара Хомкі і ўжо з адчыненага акна пачуў піліканне скрыпкі і прыпеўкі. Адчыніў дзверы. Хомка сядзеў, трымаючы ў руцэ шклянку. Захарка стаяў насупраць са скрыпкай і смычком.

— Чаму не на працы?

— Дык сёння ж свята.

— Якое свята?

— А вунь над сельсаветам сцяг вісіць, — адказаў Захарка.

І вось вазы едуць у зваротны шлях. Ананнія, седзячы на возе, бачыць, што па полі, жадаючы ехаць першымі, паганяючы каня, спяшаецца з возам Хомка, з-пад колаў яго воза ідзе спачатку дым, а за ім — полымя.

— Стой! Стой! Калёсы гараць.

Трэск саломы, што хутка разгаралася, пужае каня, і той, перабіраючы нагамі, спрабуе вырвацца ці стаць «дубка», ды толькі замінае распраганню. Конь ірвануўся прэч, цягнучы за сабой неадчэпленыя лейцы. З поля беглі людзі ратаваць дабро, але што можна рабіць, не маючы ні вады, ні рыдлёвак. Зразумеўшы, што дапамагчы не змогуць, спыняліся воддаль палаючага воза, дзе гінула праца іх рук.

Верхам на замыленым кані прыскакаў старшыня і, не злазячы з сядла, накінуўся на Хомку.

— Што, паліў на возе? Ты ў мяне ў турму пойдзеш!

Хомка, спужаны тым, што здарылася, моўчкі глядзеў сабе пад ногі. За яго заступіўся Апанас:

— Не вінаваты ён. Загарэліся нязмазаныя ўтулкі з накручанай на восі саломай. Колы даўно няма чым мазаць, мы ўжо ўсю мазь з дому папрыносілі.

Бачачы такі паварот, старшыня памякчэў:

— Хто з мужыкоў заўтра паедзе ў горад атрымаць каламазь?

— Ды навошта мужыка выпраўляць, вось Ахрэміха, яна найбольш дасведчаная, няхай і едзе, — прапанаваў Апанас.

Апанас — чалавек сур'ёзны. У сяле яго паважаюць і стары, і малы. Многія гавораць, што мае цвёрды характар. Нагадваюць выпадак, калі па просьбе старэйшага сына, які атрымаў званне генерала і прыехаў да яго ў вёску, была зроблена гулянка з застоллем, віншаваннямі і прамовамі. Усе частаваліся, ляпалі па плячы земляка, дзякавалі бацьку за сына, жадалі поспехаў на службе.

Сам Іван гаварыў:

— Ну, кім бы я быў, застаўшыся тут? Пастухом ці конюхам. А так у людзі выйшаў. Бацька, скажы ты хоць слова.

Апанас піў моўчкі, у размовы не ўступаў, закусваў, наліваў і зноў піў і не п'янеў. Пачуўшы, што сын звяртаецца да яго, устаў (застолле пацішэла) і, абхапіўшы шырокай далонню шклянку з самагонам, падняў яе на ўзровень грудзей (у хаце зусім стала ціха), сказаў:

— Відаць, кепскія справы ў войску, калі такому дурню, як ты, генерала далі.

Выпіў і моўчкі сеў. Пасля хвіліны цішыні пакаціўся гучны рогат з адчыненых акон хаты. Разам з усімі смяяўся і Іван.

Пад вечар з поля ў двор да канюшні прывезлі рэшткі недагарэлых аглобляў, атосы, абоддзе.

А назаўтра, да свету ўжо, седзячы на сене, пакладзеным на воз, Ахрэміха выехала ў горад. Яна разлічвала прыехаць да адкрыцця канторы, першай, атрымаць каламазь, добра змазаць восі колаў, накарміць каня, паесці самой з вузельчыка, які прыхапіла ў доўгі шлях, — туды ды назад кіламетраў за 50 будзе.



Ганна Гаўрыльчык (Ахрэміха).

Прыехала ў Барысаў, знайшла тую кантору, ёй выпісалі накладную на атрыманне каламазі і накіравалі на склад, які знаходзіўся ў другім месцы горада. А там даведалася, што мазь яшчэ ўчора скончылася...

Вяртаецца кабета, дарэмна з'ездзіўшы. Мазь на восях высахла, колы рыпяць. У Бродзе (гэта дарога праз лес) убачыла кучу каровінага гною. Спыніла каня, зняла кола, трэскай набрала гною і змазвае вось. Насустрач ідуць людзі, пытаюцца са здзіўленнем:

— Што гэта ў цябе нейкая дзіўная мазь?

— Якая ўлась — такая й мазь! — адказала ў роспачы жанчына.

**Мікалай ГРОЗАЎ, жыхар Барысаўскага раёна.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ



## *Георгій КАНДРАЦЬЕЎ:*

# «У нас хочуць, каб вынік ты ім даў менавіта зараз...»

*Футбольныя вынікі года спецыяльна для «Народнай Волі» падводзіць галоўны трэнер зборнай Беларусі па футболе Георгій КАНДРАЦЬЕЎ.*

### Зборная

— Для беларускай зборнай гэты год быў годам станаўлення каманды. Калі я толькі прыйшоў сюды працаваць, казаў, што неабходна перабудоўвацца, таму што каманда амаль заўсёды гуляла ў абароне. Як атрымліваецца перабудова? Гэта меркаваць балельшчыкам. Але ведаю адно — не будзе шчасця без атакі і гульні ля чужых варот. І ў апошніх матчах у хлопцаў атрымлівалася, мне спадабалася, хоць пераможнага выніку не было. Калі і надалей будзем рухацца ў такім жа накірунку, то зможам стварыць дзеяздольны калектыў.

**— Якую ацэнку па пяцібальнай шкале паставілі б зборнай за 2013 год?**

— Балельшчыкі павінны даваць ацэнку, а не трэнер.

### Чэмпіянат Беларусі

— Ведаеце, не ўбачыў я ў нацыянальным першынстве ў гэтым сезоне ні нейкіх вялікіх мінусаў, ні плюсаў. Добрыя гульні змяняліся такімі, аб якіх не хочацца нават успамінаць. Пасля некаторых матчаў я прыходзіў задаволены дадому, іншыя былі настолькі бляклыя... Усяго хапала.

**— Адным словам, топчамся на месцы?**

— У нейкім сэнсе — так.

**— У гэтым годзе не парадаваў балельшчыкаў еўракубкавымі матчамі барысаўскі БАТЭ, які ўжо прывучыў аматараў футбола да «Баварыі», «Барселоны», мадрыдскага «Рэала»... Рэгрэс?**

— Не думаю. Проста ў двухматчавым супрацьстаянні з карагандзінскім «Шахцёрам» камандзе з Казахстана пашэнціла больш. Тут прысутнічае элемент выпадковасці. Кажуць, што шанцуе мацнейшым, але ў гэтым выпадку паспрачаюся. Мне здаецца, БАТЭ выпадкова прайграў Шахцёру», і не здзіўлюся, калі ў наступным годзе барысаўчане патрапяць у групавы этап Лігі чэмпіёнаў.

**— Чэмпіянат Беларусі прайшоў па новай сістэме, з дзяленнем на шасцёркі мацнейшых і слабейшых каманд. Шмат хто крытыкуе гэтую сістэму, некаторыя сцвярджаюць, што наогул нічога не змянілася. Як вам новая формула?**

— Пакуль рана аб нечым казаць. Вось крытыкі кажуць, што ў шасцёркі слабейшых каманд няма мэты выкладвацца на ўсе сто працэнтаў, але хто вам не дае гуляць так, каб патрапіць у шасцёрку мацнейшых? Выходзьце на поле, змагайцеся за медалі... А ацэнку чэмпіянату па новай формуле дасць час. Я тут таксама пакуль не бачу ні плюсаў, ні мінусаў.

**— Якасць беларускага першынства не павысілася?**

— На мой погляд, ён знаходзіцца на тым жа ўзроўні, што і раней быў.

**— Чаму няма прагрэсу?**

— Таму што футбол развіваць трэба. У тым жа Мінску няма ні стадыёнаў, ні нармальных трэніровачных палёў, ні інвентара. Трэба ўкладвацца, калі хочам атрымаць вынік. А ў нас кажуць наадварот: «Дайце зараз вынік, а пасля нешта будзем укладваць». Гэта проста несур'ёзна!

### Іграні

— У нашай зборнай, безумоўна, выдзяляўся сярод іншых ігрок «Ростова» Цімафей Калачоў, і званне лепшага футбаліста краіны яму далі справядліва. А больш нікога асабліва адзначыць не магу... Усе прыкладна на адным узроўні.



**— Ці парадавала вас таленавітая моладзь?**

— Ведаеце, нейкіх асабліва яркіх «зорачак» я таксама не ўбачыў, але ёсць некаторыя хлопцы, якія могуць «загарэцца» пры належнай рабоце. Паглядзім. Хоць, калі ацэньваць сітуацыю з маладым папаўненнем для зборнай, то прагрэсу тут не бачу.

**— Чаму, на ваш погляд, у нас перасталі з'яўляцца «зоркі» кшталту Аляксандра Глеба?**

— Трэба шукаць таленты, думаю, што яны ёсць. Але зноў-такі — неабходна развіваць футбол, не стаяць на месцы.

### Балельшчыкі

— Гэта складаная тэма, бо ў мінулым годзе аматары футбола зноў не ішлі на стадыёны. Магчыма, у іх нейкія праблемы, жыццё не такое простае ў людзей.

**— Можа, справа не ў балельшчыках?**

— І гэта правільна, бо людзям патрэбны камфортныя стадыёны, куды яны прыходзілі б не толькі паглядзець футбол, але і адпачыць. І народ пойдзе! А каму цікава плаціць грошы, каб схадзіць і пасядзець на развалінах? Вось у Гомелі добры стадыён — і балельшчыкі гэта ацэньваюць. Хоць каманда не паказвае нейкую там супербліскучую гульню. А паглядзіце на хакейнае мінскае «Дынама»! Што, хакеісты добра гуляюць? Не, «Зубры» плятуцца ў самым канцы турнірнай табліцы, па пяць матчаў запар прайграюць. А «Мінск-Арэна» пастаянна збірае па 10 тысяч гледачоў! Трэба ўмець працаваць з балельшчыкам, ствараць яму камфорт. Тады будзе і рэакцыя ў адказ.

**Алесь СІВЫ.**

ВНЕ ИГРЫ

# Почему хромает динамовский хоккей?

*Внимательно смотрю по ТВ каждый матч с участием наших «зубров» в чемпионате КХЛ и, поверьте, не обхожусь без валидола... А все потому, что поражения в матчах сменяют друг друга с постоянством.*

Уверен, такие матчи у любителей хоккея вызывают, мягко выражаясь, недоумение. Некоторые игры просто стыдно смотреть... Поэтому, естественно, болельщиков очень волнует: что происходит с командой? Они с нетерпением ждут, когда же динамовцы начнут показывать стабильную и волевую игру.

Думаю, правильно, когда в глубинных тонкостях хоккея будут разбираться профессиональные специалисты. Но они почему-то отмалчиваются. Я же хочу высказать свое мнение.

Во-первых, наверное, сыграл роль «человеческий фактор». Это и уход ряда игроков, смена главного тренера А.Андриевского, руководства клуба. Хотя нужно признать, что ситуация этого требовала.

Во-вторых, сократили бюджет «Динамо». Нужно признать, что не все хоккеисты и руководители клуба выдержали испытание звонкой монетой. Но настоящий динамовский дух не может и не должен базироваться на набитых баснословными суммами кошельках.

В-третьих, хромает и индивидуальное мастерство. Некоторым из них еще нужно научиться мыслить на скорости и, как говорят, «видеть лед». Для этого нужно не просто тренироваться, а пахать до седьмого пота!

И вот еще...

Конечно, хоккей не бокс, но наши хоккеисты на льду должны все силы отдавать за динамовский клуб, нужно быть во сто крат агрессивнее. Уверен, тогда придут и победы.

Поверьте, я пишу это не просто потому, что решил покритиковать динамовских хоккеистов. Хочется не только мне, но, думаю, и всем болельщикам найти корень неудач команды. Все же есть надежда, что в новом году динамовские «зубры» еще не раз нас порадуют.

**Юрий ЯСИНСКИЙ, ветеран спорта, заслуженный тренер Беларуси, почетный динамовец.**

СУДЬБА ЧЕЛОВЕКА

## *Дмитрий ДАЩИНСКИЙ:*

# «Диме Раку сейчас тяжело психологически...»

*Белорусский фристайлист Дмитрий Дащинский (на фото) рассказал о своем коллеге Дмитрии Раке, который получил травму в декабре 2006 года.*



Напомним, в реанимацию китайской больницы **Дмитрия Рака** привезли 10 декабря 2006 года. Фристайлист упал во время приземления на соревнованиях в городке Цзилинь-Бейда-Лейк. Дмитрий долгое время находился в коме, но его жизнь удалось спасти. Спортсмен долго не мог говорить и двигаться, память восстанавливалась медленно.

*«Для Дмитрия Рака роковым стал трамплин в китайском Цзилине*, — написал **Дмитрий Дащинский** в блоге «Free styler» на goals.by. — *Никто не понимал, что с Димой произошло, — все в шоке были. Суета, «скорая», у Димы судороги... Никто ничего толком по-английски объяснить не может — с китайцами тяжело в этом плане. За всей ситуацией я наблюдал из домика на старте. Дима прыгнул, скатился вниз. Затем поднялся по канатке, подъехал к Николаю Ивановичу Козеке. Что-то сказал, обмяк и начал падать. Очень быстро все произошло. Серьезность ситуации поняли, когда Диму перевезли в Минск. Это просто ужас! Мы его в больнице не сразу узнали — потерянный взгляд и сплошные кости, покрытые кожей.*

*В межсезонье заезжаем к товарищу по возможности в гости. Тяжело Диме сейчас. Главная проблема — короткая память. Хотя нас и родных он узнает прекрасно. Очень трудно Дима запоминает то, что происходит в данный момент. Кстати, свой китайский прыжок он помнит. Но не может освежить в памяти то, что происходило дальше. Тело же у него практически восстановилось — лишь одна рука и нога похуже работают. Так бывает после инсультов и кровоизлияний. Страшно, конечно. Каждый день для Димы начинается заново. Ему тяжело от этого психологически — часто сидит, погрузившись в себя».*

ШАШКІ

## *Двойчы чэмпіён*

Міжнародны майстар з Наваполацка Пётр Шклудаў стаў двойчы чэмпіёнам краіны і свету па шашачнай кампазіцыі. Такі ўнікальны вынік ён паказаў у раздзелах па складанні эцюдаў і камбінацыйных праблем-64. Планетарныя першынствы па гэтых відах кампазіцыі праводзіліся ўпершыню, а чэмпіянат Рэспублікі Беларусь па ліку быў 17-м, у ім атрыманы яшчэ і сярэбраны медаль (у жанры «Дамачныя праблемы»). Па электроннай пошце чэмпіён даслаў свае новыя канструкцыі. З задавальненнем выносім іх на ваш суд:

1 (эцюд). **Белыя:** e1, дамкі a7, h4, h6 (4).

**Чорныя**: d4, d8, e3, e5, f4, h2 (6).

g3 (g1AB) ef2!, c1, c7, g1+. A(c7) d2, g5, e3! (f4C) e3 (d6), h6+ — Блонд. B(e7) ef2, f8, fc5, g5/h6+. C(g5) b8+.



2 (праблема). **Белыя**: a1, d6, e1, f2, g1, h2, h4, h6 (8). **Чорныя**: a5, b2, c3, d4, e3, f4, f6, f8, g5 (9).

Карысна яе разабраць самастойна. Ход белых.

Дарэчы, абсалютнаму пераможцу нашых бліцаў-69—76

Леаніду Жыхару (Мядзел) выслана рэдкая кніга Ж. Макажанава «Стоклеточные шашки» (Казахстан, 1987 г.) з заахвочвальнага фонду, створанага П.Шклудавым.

## *Агляд спаборніцтваў*

У Партугаліі адбыўся міжнародны турнір па шашках-100. Выдатна выглядаў у ім беларускі гросмайстар Аляксандр Булатаў: ён набраў 12 ачкоў з 14 магчымых і падзяліў 1—2-е месцы з экс-чэмпіёнам свету Гунтысам Валнерысам (Латвія). Па дадатковых паказчыках яму ўручаны другі прыз. А вось у бліцтурніры наш зямляк быў першым.

А па шашках-64 прайшлі чэмпіянат Мінска і турнір рэспубліканскага значэння «Пастаўская восень». У першынстве сталіцы мацнейшымі былі майстар Вікенцій Якусевіч (15 ачкоў), кандыдаты ў майстры спорту Алег Чэпа (13) і Марыя Міронава (12). У жаночым заліку ёй уручаны дыплом чэмпіёнкі, а Аляксандры Спірынай — віцэ-чэмпіёнкі (у свой актыў яна запісала 11 ачкоў і ў агульным турніры заняла 6-е месца), Настассі Кашнікавай — бронзавага прызёра (10 ачкоў і 14-е месца ў агульным заліку). У Паставах першы прыз заслужыў майстар ФМЖД з Мінска Аляксей Куніца (14 ачкоў), на адно ачко ад яго адсталі і падзялілі 2—3-е месцы нацыянальныя майстры з Гродзенскай вобласці Васіль Навумік і Аляксандр Маркін. Лепшай сярод жанчын суддзі назвалі кандыдата ў майстры Эму Макарэвіч (Гродна). Арганізатар спаборніцтваў кандыдат у майстры Іван Троцкі (Паставы) фінішаваў пятым.

## *Рашаем разам*

**«Нашы госці»**: №1 (Ю.Голікаў) — 1. dc3 2. c:e3 3. ed4 4. gh6 5. h:h6x.

**Мікалай ГЛАДКІ.**

«Народная Воля»

в Twitter www.twitter.com/narodnaya_volya

в Facebook www.facebook.com/nv.online.info

в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл. (017) 3286871. Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286904, 3286906, (029) 7753871 nv@promedia.by http://www.nv-online.info http://twitter.com/narodnaya_volya

ISSN 2071-9647

9 772071 964000 13101

Падпісныя індэксы: 63222 — для індывідуальных падпісчыкаў, 632222 — для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 23.12.2013 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 26720 экз. Заказ №5283.